

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года    № 47 (535)    28 ЛІСТАПАДА 2001 г.

## Тэатру імя Я. Коласа – 75!

Праз кожныя пяць гадоў на некалькі лістападаўскіх дзён Віцебск спраўджвае сваю даўнюю мару і ператвараецца ў сталіцу – сталіцу тэатральнага жыцця краіны. Менавіта сюды з'яджаюцца тэатралы з усёй рэспублікі, каб павіншаваць з юбілеем Акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа, які ў гэтым сезоне дадаў да сваёй назвы яшчэ і ганаровае званне Нацыянальнага. Сёлета аднаму з найстарэйшых і прафесійных тэатральных калектываў Беларусі спаўняецца семдзесят пяць.

Афіцыйнае адкрыццё тэатра адбылося 21 лістапада 1926 года. А перад гэтым былі яшчэ пяць год працы Беларускай драматычнай студыі, якая існавала пры Маскоўскім мастацкім тэатры. Будучым студыйцам давялося вытрымаць вялікі конкурс – з чатырохсот ахвотных на вучобу ў Маскву *трапіла* толькі тры дзесяткі самых таленавітых. Сярод іх былі будучыя зоркі беларускай сцэны: А. Ільінскі, П. Малчанаў, Ц. Сяргейчык, А. Радзялоўская, Я. Глебаўская, М. Звездачотаў, Р. Кашэльнікава, С. Станюта... нельга не ўзгадаць і першых беларускіх рэжысёраў савецкага часу: К. Саннікава, Л. Мазалеўскую, М. Міцкевіча. Пасля заканчэння вучобы ў Маскве Беларускую драматычную студыю ў поўным складзе накіравалі ў Віцебск і ганаравалі Другім беларускім дзяржаўным тэатрам (БДТ-2, бо Першы беларускі, утвораны з трупы І. Буйніцкага і "Таварыства драмы і камедыі" Ф.Ждановіча, ужо існаваў у Менску). І гэтая назва прадвызначыла аднасіны этых тэатраў на доўгія гады: мянчане першымі атрымалі і "імя", і ордэн Працоўнага Сцяга, і званні – спачатку "Акадэмічны", а потым і "Нацыянальны". Імя Якуба Коласа было нададзена віцебскаму тэатру невыпадкова – творы славутага пісьменніка неаднойчы з'яўляліся на гэтай сцэне. Тут атрымалі сваё тэатральнае ўвасабленне ягоныя "Вайна вайне" і "У пушчах Палесся", за імі – "На ростанях", "Сымон-музыка", "На дарозе жыцця". І нарэшце, адна з апошніх работ тэатра – спектакль "Зямля" паводле паэмы Якуба Коласа "Новая зямля", спектакль, даволі няпросты для ўспрымання, звернуты не столькі ў мінулае, колькі ў будучыню.

*Паводле Юлі Палачанінай.*



**На здымку:** сцэна са спектакля "Адукаваныя", уганараванага галоўным прызам на фестывалі сучаснай нямецкай драматургіі ў Менску.

**Фота А. Хітрова, БелТА.**

Сп. Рыгору Шацько,
дырэктару Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра
імя Якуба Коласа.

**Дарагія сябры!**

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны шчыра віншуе коласаўцаў з 75-мі ўгодкамі ад дня заснавання аднаго з старэйшых тэатраў нашай краіны. Праз усе гады Вы годна неслі жывое беларускае слова, стваралі спектаклі высокага патрыятычнага кшталту.

Тэатр пачынаў сваё творчае жыццё з народнай драмы "Цар Максіміліян". Цягам гадоў шмат зроблена. Сярод усяго на нашай памяці выдатныя спектаклі "Званы Віцебска", "Сымон-музыка", "Кастусь Каліноўскі" таленавітага рэжысёра Валерыя Мазынскага, поспех якому прынеслі цікавыя навацыі і эксперыменты.

Незабыўныя сцэнічныя вобразы стварылі Цімох Сяргейчык, Анатоль Трус, Анатоль Шэлег, Таццяна Мархель, Іосіф Матусевіч, Зінаіда Канапелька, Яўген Шыпіла, Тадэвуш Кокштыс, Вялянціна Петрачкова, Алесь Лабянок, Пятро Ламан, Віктар Дашкевіч, Аляксандр Фралоў і шмат іншых.

У гэтыя юбілейныя дні хацелася б узгадаць імёны з слаўнага мінулага: дырэктара тэатра Геральда Асвяцінскага і загадчыка літаратурнай часткі Уладзіміра Ганчарова, людзей, шчыра адданых тэатральнай справе.

З нагоды 75-х угодкаў Таварыства зычыць творчай трупе тэатра і надалей высока трымаць планку прафесійнага тэатральнага майстэрства, даносіць да гледача лепшыя ўзоры айчыннай і сусветнай драматургіі, быць вартымі імя класіка беларускай літаратуры Якуба Коласа.

З павагай
**Старшыня ГА ТБМ імя Ф. Скарыны    Алег Трусаў.**

Спадару Басалыгу Ул. С.
**Старшыні Беларускага саюзу мастакоў**

**Шаноўны Уладзімір Самойлавіч!**



Таварыства беларускай мовы шчыра віншуе Вас з абраннем на пасаду Старшыні Беларускага саюзу мастакоў. Ачольваць самую вялікую ў нашай краіне грамадскую арганізацыю творцаў -- справа ганаровая і ў той жа час няпростая.

Ваша перамога на выбарах робіць гонар і дэлегатам XVII з'езду мастакоў, якія аддалі перавагу, даверылі кіраўніцтва Саюзам таленавітаму і шырока вядомаму мастаку-графіку, творцу, які ўсё жыццё спавядае нацыянальныя ідэалы.

ТБМ высока цэніць Ваш адметны ўнёсак у кніжную графіку, стварэнне серыяў літаграфій: "Помнікі дойлідства Беларусі", "Радзіма мая дарагая", Мова наша родная".

Няхай жа пад Вашым кіраўніцтвам ажывае і пашыраецца ў мастакоўскім асяродку дух Беларушчыны.

З павагай
**Старшыня ТБМ Алег Трусаў.**

### *Кіраўніцтву Тэлеграфнага Агенцтва БЕЛАПАН*

**Дарагія сябры!**
**Віншуем Вас з 10-гадовым юбілеем!**

За гэтыя гады Вы сталі папулярнымі не толькі ў Беларусі, але і далёка за яе межамі.

Вашая інфармацыя заўжды лаканічная, аператыўная і аб'ектыўная. Так трымаць!

З павагай,
**Старшыня ТБМ Алег Трусаў.**

### *Абвестка*

**Курсы па вывучэнні беларускай мовы (ІІ-ая група) пачнуцца з студзеня 2002 года. Хто жадае наведваць іх, калі ласка, запісвайцеся ў сядзібе ТБМ (вул.Румянцава, 13, Менск).**

**Кіраўнік курсаў – Валянціна Раманцэвіч.**

№ 47 (535) 28 ЛІСТАПАДА 2001 г. НАША СЛОВА

# МОВА Ў ЛЮСТЭРКУ ТАЛЕРАНТНАСЦІ

"Талерантнасць у канцэптуальным і этнакультурным вымярэннях" – менавіта такую назву мела 2-я міжнародная навуковая канферэнцыя, што адбылася ў кастрычніку ў Берасці і якая была прысвечана памяці прафесара Анатоля Яцкевіча, першага на Берасцейшчыне доктара навук. Варта адзначыць, што праведзеная канферэнцыя, якая сабрала нямала вядомых вучоных з Беларусі і суседніх краін, з'явілася першай у Цэнтральна-Усходняй Еўропе, на якой з'ява талерантнасці стала аб'ектам спецыяльнага ўсебаковага разгляду. Такая цікавасць невыпадковая, бо, як адзначалася, талерантнасць – гэта не толькі найважнейшая з самаацэнак, якія даюць самі сабе беларусы. Гэта яшчэ і прызнанне асаблівасці беларускага нацыянальна-псіхічнага складу нашымі суседзямі. Так, пад час даследванняў, праведзеных нядаўна сацыёлагамі Нацыянальнай Акадэміі навук Украіны, было ўстаноўлена, што найважнейшаю нацыянальнаю рысаю беларусаў большасць апытаных лічаць менавіта талерантнасць (80 балаў з 100), на другое месца рэспандэнты паставілі працавітасць (77), а на трэцяе гаспадарлівасць беларусаў – 73 балы. Такія рысы нацыянальнага характару беларусаў, як "добразычлівасць, лагоднасць", апынуліся на першай пазіцыі таксама ў выніку даследванняў, праведзеных вучонымі Польшчы.

Звесткі аб цярпімасці беларусаў да іншых народаў, іх рэлігій і традыцый праходзяць праз гісторыю, знайшлі адлюстраванне ў крыніцы народнай мудрасці – фальклёры. Так, сярод соцень песень, што пазбіраны ў выдадзеным у 1876 г. "Зборніку помнікаў народнай творчасці ў Паўночна-Заходнім краі", толькі двойчы сустракаюцца выказванні наконт яўрэяў, ды і то не ў агрэсіўна-зняважлівай, а хутчэй у жартаўлівай форме.

Вядома, праявы талерантнасці з боку беларусаў да іншых народаў нельга і абсалютызоўваць, бо ў гісторыі мелі месца і з'явы частковага абмежавання правоў некаторых нацыянальных меншасцяў, і, хоць і паасобныя, факты пагромаў, і высяленні пэўных этнічных груп. Так, артыкул "Аб цыганах" Статута Вялікага княства Літоўскага 1588 г. забараніў апошнім пражываць на яго землях і прадугледжваў штраф за іх укрывальцтва. Можна прыгадаць і загад Вялікага князя Аляксандра аб высяленні яўрэяў (1495 г.). Заўважым, аднак, што падобныя загады дыктаваліся, як правіла, кан'юнктурнымі разлікамі і насілі часовы характар. Так, ужо ў 1503 г. яўрэям зноў было дазволена сяліцца на беларускіх землях, а статутныя прапановы наконт высялення цыганоў мірна ўжываліся з гарантыямі апошнім "гаспадарчай ласкі і датак", прадугледжанымі пастановай Гарадзенскага сойму 1566-67 гг.

Далёка не адназначна праяўляецца талерантнасць беларусаў да народаў-суседзяў і ў цяперашні час. Як сведчаць вынікі даследвання, праведзенага сярод жыхароў Беларусі, пры адказе на пытанне: "Як вы ставіцеся да прадстаўнікоў розных нацыянальнасцяў?" самыя высокія рэйтынгі аказаліся ў беларусаў (90,3%) і рускіх (85,6%), крыху меншы "працэнт сімпатый" атрымалі украінцы (65,9%) і палякі (64,7%). У той жа час многія этнасы апынуліся за парогам сімпатый большасці рэспандэнтаў. Так, да літоўцаў станоўча ставяцца толькі 42,3%, да яўрэяў – 40,6%, да татараў – 33,3% і ўсяго менш сімпатызуюць цыганам – толькі 29,2% апытаных жыхароў рэспублікі.

Але ўсімі прызнаная талерантнасць беларусаў – гэта не толькі падстава для гонару, але і наша бяда. І калі з пункту гледжання суседніх народаў талерантнасць беларусаў – рыса заўсёды жаданая, бо дазваляе лёгка адаптавацца ў беларускім асяроддзі ўсякаму іншаземцу, а пры зручнай магчымасці і асіміляваць самых гасцінных гаспадароў-беларусаў, то з пазіцыі нацыянальных інтарэсаў беларускага этнасу асобныя формы праяўлення талерантнасці могуць адыгрываць і адмоўную ролю. Асабліва калі добразычлівыя адносіны да іншых моў і культур перарастаюць у нацыянальны нігілізм, у абыякавасць да роднай мовы. Згодна з вынікамі апытання, праведзенага Інстытутам сацыялогіі НАН Беларусі ў 2000 годзе ва ўсіх абласцях Рэспублікі, толькі 57,1% яе грамадзян ганарыцца сваёй нацыянальнай прыналежнасцю. У той жа час 40,3% апытаных беларусаў не ганарыцца ёю і ўсведамляюць сваю нацыянальную прыналежнасць у нязначнай ступені. Паказальна, што нягледзячы на тое, што з часоў распаду СССР і ўтварэння сувярэннай Беларусі прайшло ўжо дзесяць год, амаль кожны чацвёрты яе грамадзянін (23,8%) па-ранейшаму ўсвядамляе сябе савецкім чалавекам.

Этнічная неталерантнасць знаходзіць сваё праяўленне ў стыгматызацыі (ад грэчаскага "стыгма" – знак, кляймо) – такой з'яве, калі адмоўнае ўспрыманне чалавека вынікае не з-за яго асабістых якасцяў ці ўчынкаў, а толькі па прычыне ягонай прыналежнасці да пэўнай этнічнай групы, негатыўнага стаўлення да мовы, на якой члены гэтай групы размаўляюць. У сваім дакладзе прафесар Універсітэта ў Беластоку Эльжбета Чыквін звярнула ўвагу на праяўленні стыгматызацыі ў дачыненні да беларусаў Беласточчыны і іх мовы, прывяла нямала запісаных ёй характэрных выказванняў:

- *"На працы я размаўляла з сяброўкамі па-беларуску. Мая калежанка зрабіла мне заўвагу: "Як пані размаўляе! Гэта ж не ўласная кватэра пані, а дзяржаўная ўстанова! Пакуль яшчэ ў польскіх установах абавязковае ўжыванне польскай мовы, а не нейкай там хахлацкай"* (жанчына, 29 год);
- *"У дзяцінстве, пры наведванні Беластока, мама заўсёды спыняла мяне: "Ціха!", калі ў краме я пачынала гаварыць па-свойму, па-беларуску. Інакш я тады не ўмела"* (жанчына, 39 год).

Стыгматызацыя адмоўна ўплывае на псіхічны стан асобы, якая зачынае адчуваць сваю моўную (этнічную) непаўнавартасць у параўнанні з прадстаўнікамі дамінантнай нацыі:

- *"Калі я вучылася ў пятым класе школы, паехалі на канікулы ў Кракаў. І толькі там я заўважыла, што мова, якой я размаўляла і якую лічыла польскай, моцна адрозніваецца ад пачутай у Кракаве. Цэлы тыдзень праляжала ў ложку і праплакала, бо не ўмела так размаўляць"* (жанчына, 47 год).

Здараюцца выпадкі, калі асобы, што належаць да стыгматызаваных этнічных груп, нават змяняюць свае ўласныя імёны і прозвішчы на ўласцівыя дамінантнай нацыі:

- *"Жыве ў нашай вёсцы хлопец, які меў беларускае прозвішча Кіслы. Калі збіраўся паступаць у паліцэйскую школу, баяўся, што такое прозвішча перашкодзіць яму ў гэтым і вырашыў замяніць яго на адпаведнае польскае. Быў Кіслы, а цяпер – Квасneўскі. Але ў тую паліцэйскую школу так і не здолеў паступіць!"* (жанчына, 30 год).

Нярэдка сутыкаюцца з фактамі непрыняцця, адмоўнага стаўлення да вывучэння і публічнага ўжывання іх мовы таксама прадстаўнікі этнічнай групы кашубаў, на што звярнуў увагу ў сваім дакладзе заснавальнік кашубскай пачатковай школы ў Гладніцы, аўтар выдадзенага ў мінулым годзе ў Гданьску "Кашубскага буквара" ("Kaszevscze avecadto") Вітольд Баброўскі. Кашубы, што спрадвечна насялялі паўднёвае ўзбярэжжа Балтыйскага мора ў межах цяперашняй Польшчы, здолелі, нягледзячы на страту сваёй дзяржаўнасці яшчэ ў XIII стагоддзі, захаваць у іншаэтнічным і іншамоўным атачэнні сваю мову, у тым ліку літаратурную, нацыянальныя традыцыі, усведамленне ўласнай этнічнай адметнасці. Асобна варта адзначыць факт увядзення кашубскай мовы і культуры ў адукацыйны працэс. У 1990-х гг. быў утвораны першы Кашубскі агульнаадукацыйны ліцэй у г. Брусы, у якім выкладаюцца кашубская мова і літаратура, традыцыйная кашубская культура, а ў гміне Лінія, пад Гдыняй, была адкрыта Гладніцкая кашубская пачатковая школа, увесь дыдактычны працэс у якой ажыццяўляецца на двух раўнапраўных мовах: кашубскай і польскай. Адмова ваяводскіх улад адкрыць у Гладніцкай чатырохгадовай школе 5-ы клас і тым самым даць яе вучням магчымасць працягваць сваё навучанне па-кашубску прывяла ў верасні месяцы да забастоўкі бацькоў навучэнцаў. Кашубская мова ва ўсё большай ступені становіцца сродкам этнічнай самаідэнтыфікацыі гэтага нешматлікага славянскага народа, набывае характар каштоўнасці, дзеля абароны якой кашубы гатовы пайсці на рашучыя меры. Дарэчы, "кашубскі дэсант" на беларускай зямлі быў адным з самых прыкметных: ажно чацвёра вядомых навукоўцаў з Паморскага ваяводства Польшчы выступілі на канферэнцыі ў Берасці.

Дасягненне ўзаемаразумення, усталявання талерантных адносін паміж народамі з'яўляецца неабходнай перадумовай еўрапейскай інтэграцыі. Разам з тым, сітуацыя на інтэграцыйным полі няпростая. Як сведчаць даныя, прыведзеныя доктарам навук Чэславам Вісьнеўскім з Лодзі, падтрымка інтэграцыйных намераў з Еўрапейскім Саюзам з боку польскай грамадскасці мае тэндэнцыю да зніжэння. У перыяд з чэрвеня 1994 г. да цяперашняга часу зніжэння склала 18% і ў кастрычніку 2001 года ўступленне Польшчы ў ЕС падтрымоўвала менш паловы (49,6%) яе грамадзян. Чым больш інфармацыі аб Еўрасаюзе атрымоўвае польскае грамадства, чым бліжэй тэрмін уступлення ў яго, тым больш цвярозай становіцца ацэнка падзеі, што мае адбыцца. Прыхільнікамі еўрапейскай інтэграцыі з'яўляюцца перад усім жыхары буйных гарадоў, маладыя людзі, а таксама асобы з высокім узроўнем даходаў. Антыінтэграцыйныя пазіцыі тлумачацца перад усім апаскай перад эканамічнай залежнасцю і звядзеннем палякаў да ролі наёмнай рабочай сілы.

З цікавасцю былі сустрэты на канферэнцыі даклады прафесараў, дактароў навук Э. Дарашэвіча, Э. Ёфа, Я. Бабосава, А. Ляўко з Менска, М. Кухарава з Гомеля, А. Кандрашэнкава і С. Вострыкава са Смаленска, Ю. Юркенаса і Л. Бурэнінай з Вільні, С. Яцкевіча з Берасця, М. Барысава з Якуцка, К. Косака-Глуўчэўскага, Т. Малішэўскага, В. Чэрвіньскага (усе з Гданьска), кандыдатаў навук, дацэнтаў В. Белазаровіча з Горадні, Л. Піскун і Л. Лісоўскага з Мазыра, І. Сінчука і В. Мазанік з Менска, Д. Дука і С. Касцюкевіч з Полацкага дзяржаўнага унівнрсітэта і іншых удзельнікаў. Наступную, трэцюю, канферэнцыю намечана правесці ў Берасці 10-11 лістапада 2002 года.

*Сяргей Яцкевіч,*
*доктар філасофскіх навук,*
*прафесар,*
*г. Берасце.*

# Народны танцмайстар Мікола Котаў

*З замілаваннем і ахвотай*
*Глядзім, калі Мікола Котаў*
*На мове танца размаўляе,*
*Пазнаць сусвет нас запрашае.*
*У кожным руху ёсць аснова,*
*Ён вечнасць доўжыць ім без слова,*
*І продкаў спадчыну трымае,*
*Краіну родну праслаўляе.*



Мікола Котаў

Так трапна прыказаў, бо заўсёды размаўляе толькі на паэтычнай мове, нязменны вядовец святаў Каляд і Вялікадня ў Менску любанец Анатоль Кісель, калі назіраў за скокамі Міколы Котава і яго дзіцячага фальклёрнага тэатру "Бераг белых бкслоў" 192-й школы г. Менска ў 1998 годзе.

Мікола за мяне старэйшы ўсяго на адзін тыдзень. Але калі гляджу, як ён амаль штодзённа-паўсядзённа працуе ў навукова-даследчай лабараторыі беларускага фальклёру Белдзяржуніверсітэта, дзе мы цяпер працуем, не верыцца яго ўзросту, а таму не скажу, колькі яму 1 снежня 2001 года.

Калі ўявіць сабе ўсе сцэны, дзе Мікола Котаў танцаваў беларускія польку "Ку-ку!" і сямейны танец, рытмічны ў форме капітан-лейтэнанта (якраз мае вайскова-марское званне ў запасе), і шматлікія беларускія абрадавыя скокі, танцы Цярэшкі, Несцеркі, старога, п'яніцы, рускія, украінскія і цыганскія танцы, то іх, відаць, набярэцца ўжо некалькі дзесяткаў тысяч. Яны былі не толькі на Беларусі, але і ў Расіі, на Украіне, у Польшчы, Чэхаславакіі, Германіі, Югаславіі, Эфіопіі, а ў апошнія гады неаднаразовыя падарожжы з музыкамі штат Н'ю-Джэрсі ЗША. Там склаліся добрыя творчыя сувязі з беларуска-амерыканскім цэнтрам у Саўт-Рыверы, дзе паўнакроўным нацыянальным жыццём з роднымі песняй, музыкай, святамі жывуць нашы суайчыннікі. Былі выступленні і на нью-ёркскім Брадвеі, і на Брайтан-Біч.

Выпраўную ў эстэтычнае жыццё, як і абсалютнай большасці з нас, дала Міколе маці Параска на рэчыцкай зямлі. Няма сумнення, што памеры танца ў душы хлопчыка заклалі яе мернарытмічныя калыханкі. Другую самабытную рысу будучага танцмайстра – імкненне ўвасобіць тэатралізаванасць танцаў народа нарадзілі, відаць, яшчэ калыскавыя забаўлянкі-прадстаўленні тыпу "Ідзе каза рагатая", "Ходзіць бай па сцяне" і іншыя.

Спеўная рэчыцкая лірычная зямля (успомнім знакамітую "Рэчыцкую лірычную"), дзе ўжо гучаў выдатны Азершчынскі народны калектыў Кандрата і Таццяны Лапаціных, а больш канкрэтна танцавальны гурток Эдуарда Сцяпанчанкі ў дзіцячыя гады сфармавалі жывога, няўрымслівага, непаседлівага танцора скакуна Міколу, якім ён застаўся да цяпер ужо паважнага ўзросту. Шчыра скажу, што часта ў гэта нават не верыцца, бо гэта трэба бачыць.

Пачаткі прафесійнай харэаграфічнай адукацыі далі Котаву курсы па падрыхтоўцы танцавальных калектываў Лявона Іванава пры Гомельскім абласным доме народнай творчасці. Будзе да места нагадаць пра з'яўленне менавіта ў Гомелі знакамітага ансамбля танцу Рыбальчанкі, а блізка да нашага часу яшчэ і ўнікальнага фальклёрнага тэатру "Жалейка" Міколы Макарцова – бліжэйшага аднадумца Котава.

Пасля маці і рэчыцкай зямлі, якіх мы, як вядома, не выбіраем, другі раз шчаслівы лёс падараваў Міколе Котаву сустрэчу ў 1964 годзе са старажытнай Тураўскай зямлёй, дзе ён дваццаць пяць гадоў непасрэдна ўбіраў, запісваў, даследваў і ўвасабляў на сцэне харэаграфічную культуру нашчадкаў залатавуснага прамоўцы Кірылы Тураўскага. Для мяне глыбока сімвалічна, што Мікола Котаў цяпер працуе ў Белдзяржуніверсітэце, у скверы якога 30 кастрычніка 2001 юбілейнага для танцмайстра года побач з другімі асветнікамі старажытнай Беларусі адкрыты помнік Кірыле Тураўскаму.

Дваццаць пяць лепшых гадоў жыцця аддадзены Міколам Котавым Тураўскай зямлі. Гэта былі гады не толькі збірання, даследвання танцаў, карагодаў, скокаў, рытуалаў, абрадаў, святаў тураўцаў, але і ўдумлівага перанясення іх у як мага найбольш натуральным, аўтэнтычным, але ўпрыгожаным сваім творчым бачаннем выглядзе на сцэну ў стаўшых вядомымі калектывах "Прыпяць" у Тураве, "Верасок" у вёсцы Верасніца Жыткавіцкага раёна, "Ніва" ў вёсцы Рамель суседняга Столінскага раёна.

Няўрымслівая творчая натура Міколы Котава не давала яму сядзець на месцы – замест зніклых ужо ў паўсядзённым побыце пасталоў ён надзяваў гумовыя боты і ішоў да людзей, заглядаў у самыя запаветныя месцы ў пошуках старых танцаў, музыкі да іх, спеваў, запісваў гэтыя старажытныя рэаліі тураўскага краю. Дарэчы будзе заўважыць, што такіх старадаўніх элементаў традыцыйнай культуры тут, як "Жаніцьба коміна", юраўскае валачобніцтва, вяселлі з двума караваямі, Сямік і Тройца, Зліўкі і цяпер тут не злічыць. У кожнай вёсцы Тураўшчыны існуюць выдатныя фальклёрныя калектывы, а асабліва самабытныя ў Пагосце і Верасніцы, Запясоччы і Пухаўшчыне, Хільчыцах і Пераро ўскім Млынку Хваенску і Рычове, Слепцах, Чэрнічах, Азяранах і інш..

Калі я пачаў падлічваць, з якіх рэгіёнаў найбольш фальклёрных калектываў прынялі ўдзел у самай даўгавечнай 25-гадовай фальклёрнай праграме беларускага тэлебачання "Запрашаем на вячоркі", неўзраўнаным чэмпіёнам (дваццаць унікальных абрадава-святочных праграм) аказалася менавіта Тураўская зямля.

Упэўнены, да гэтага ў значнай ступені прычыніліся неўтаймаваная творчая энергія Міколы Котава. Ён наследаваў выдатныя запаветы вялікіх беларусаў XX ст. Рыгора Шырмы і Генадзя Цітовіча: "Не толькі збіраць скарбы народнага краю, але і думаць, як іх вярнуць у паўсядзённае жыццё народа ў як мага больш прыгожым выглядзе". А таму за тураўскі перыяд Котаў ажыццявіў каля ста сцэнічных інтэрпрэтацый пабачанага, сярод якіх такія цікавыя, як "Тураўская полька", "Запясоцкія скокі", "Полька ку-ка", карагоды "Гуканне вясны", "Залатыя каласы", "На Прыпяці", харэаграфічныя замалёўкі "Драначкі-выбіраначкі", "Вясковыя гульні", "На чыгунах", "На ніве", "Закаханыя", "Боль Хатыні" і іншыя.

З пераездам у Менск, па ініцыятыве міністра культуры Юрыя Міхневіча, знаўца народных танцаў запрашаецца для інсцэніровак назапашаных ім твораў у прафесійных калектывах і ВНУ: Дзяржаўным народным хоры, Дзяржаўным ансамблі народнай музыкі "Свята", тэатрах імя Янкі Купалы ў Менску і Якуба Коласа ў Віцебску, Акадэміі мастацтва і Беларускім універсітэце культуры.

У апошнія дзесяцігоддзі Котаў стварыў дзесяткі дзіцячых фальклёрных калектываў і тэатраў у Менску і па ўсёй Беларусі, вучыў танцаваць у многіх вядомых вясковых фальклёрных калектывах. Асаблівым клопатам яго ў апошні час быў удзел у падрыхтоўцы фальклёрных радыё- і тэлеперадач "Запрашаем на вячоркі" і "Фальклёр", дзіцячы фальклёрны тэатр у Буда-Кашалёве, з якім ён неаднаразова выязджаў у Германію з высакароднай мэтай збору сродкаў на лячэннее дзяцей з чарнобыльскага рэгіёну.

Мікола Котаў карыстаецца вялікай павагай у вядомых знаўцаў харэаграфічнай культуры.

"У яго самабытны народны талент. Ён дзіця палескай прыгажосці, таму яго пастаноўкі натуральныя і паўнакроўныя", - засведчыла доктар мастацтвазнаўства Юлія Гурко.

"Мне імпануе яго незвычайная харэаграфічная лексіка. Котаў вельмі ўважлівы да аўтэнтыкі і асцярожна ўдумлівы пры адборы фарбаў даўніны, што робіць яго інсцэніроўкі запамінальнымі, адметнымі", - адзначыў заслужаны артыст Беларусі Васіль Купрыяненка.

"Ён дасканала ведае таямніцы народнага мастацтва танцу, што дае яму магчымасць не парушаць гаромонію і першародную чысціню яго", - сказаў танцмайстар Дзяржаўнага народнага хору Беларусі Васіль Варановіч.

"У асобе Котава я бачу чалавека ад зямлі, ад Бога, які свеціцца промнямі народнай харэаграфічнай культуры", - аўтарытэтна канстатаваў Народны артыст Беларусі Міхась Дрынеўскі.

Многа гадоў я звязаны з Міколам Котавым даследваннем святочнай, абрадавай і ўсёй традыцыйнай культуры ў адзінай на Беларусі навукова-даследчай лабараторыі беларускага фальклёру філфаку Белдзяржуніверсітэта, якая ў значнай ступені трымаецца на энтузіязме і самаахвярнасці яе працаўнікоў. За гэты час Котаў пашырыў свае даследванні зборнікамі "Закукуй, зязюленька" (сцэнарыі), "Хлеб – жыццё, жыццё – хлеб" (прыказкі і прымаўкі), "50 жаночых і 50 мужчынскіх прыпевак", "З народнай скарбонкі". Матэрыялы па абрадава-святочнай культуры ён рэгулярна друкуе ў часопісе "Кніжны калейдаскоп", тыднёвіках "Наша слова" і "Голас Радзімы" і многіх іншых перыядычных выданнях.

З горыччу і вялікім жалем у юбілейнай 60-гадовай бочцы мёду дзеля аб'ектыўнасці і справядлівасці даводзіцца канстатаваць лыжку дзёгцю. Ужо двойчы самы вялікі ў краіне Беларускі саюз фалькляры стаў падаваў у Міністэрства культуры матэрыялы на прысваенне Міколе Котаву ганаровага звання. Апошнія, на наш погляд, прысвойваюцца, на жаль, "каму трэба", але толькі не тым, хто ахвярна працуе на высакароднай ніве народнага мастацтва.

Сведчу, што цяпер вядомы знаўца народнага танца Мікола Котаў знаходзіцца ў зеніце творчых сіл. У апошні час прадметам яго асаблівых клопатаў з'яўляецца стварэнне Нацыянальнага ансамбля фальклёру ў выдатным творчым хаўрусе з заслужаным дзеячам мастацтваў Беларусі Міколам Сіратой і прафесарам-фалькларыстам Алегам Аляхновічам. Многа ўвагі ён удзяляе і працы ў Беларускім універсітэце культуры, выпускніком рэжысёрскага аддзялення якога ён з'яўляецца. Упэўнены, што мы яшчэ пабачым грунтоўнае даследванне народнага танцу беларусаў, над якім Котаў цяпер працуе.

Шчыра зычым табе, Мікола, доўгіх год творчага, навуковага жыцця і мастацкага натхнення.

*Васіль Ліцьвінка.*



Суладдзе слова, музыкі і танцу. Ніл Гілевіч, Уладзімір Пузыня і Мікола Котаў падчас імпрэзы з нагоды выхаду 500-га нумара "Нашага слова"



Мікола Котаў (на пярэднім плане) падчас 175-х угодкаў П. М. Шпілеўскага ў в. Шыпілавічы.





# Слуцкі збройны чын

## Слуцкае паўстанне

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Рада Случчыны ў заключэнне дэкларацыі абвяшчала, што яна будзе "цвёрда стаяць за незалежнасць і свабоду роднае Беларусі і бараніць інтарэсы сялянства ад насільляў з боку чужаземных захватчыкаў, у выпадку нават сілаю аружжа, нягледзячы на лічэбную перавагу праціўніка, думаючы, што наша справа – справа праўдзівая, а праўда заўсёды закрасуе".

Была сфармаваная 1-я Слуцкая брыгада стральцоў войскаў Беларускай Народнай Рэспублікі са сваім штабам у складзе двух палкоў – 1-га Слуцкага і 2-га Грозаўскага, якія складаліся першапачаткова з 4 тысячаў чалавек. Брыгада была пяхотная, яе палкі падзяляліся на батальёны і роты. Батальёны былі асноўнымі баявымі адзінкамі. У складзе брыгады знаходзіўся конны аддзел, а таксама палкавыя абозы і збройная майстэрня. У палках былі створаныя палкавыя штабы. Пры штабе брыгады арганізаваныя аддзелы разведкі і контрразведкі. Дзейнічалі таксама палявы шпіталь і вайсковы суд. Выдавалася газета.

Камандзірам брыгады быў прызначаны капітан Анастас Анцыповіч, камандзірам 1-га палка капітан Павел Чайка, 2-га палка – капітан Лукаш Семянюк. 1-ы полк фармаваўся ў Слуцку, 2-і – мястэчку Грозаў (потым у мястэчку Семежава).

14.11. 1920 г. было падпісана адмысловае пагадненне паміж польскім і расійскім бакамі аб вывадзе польскіх войск са Случчыны за дзяржаўную мяжу на новую дэмаркацыйную лінію. Сам вывад польскіх войскаў пачаўся 22 лістапада. 24 лістапада польскія войскі пакінулі Слуцк, а 29 лістапада войскі 8-й стралковай дывізіі Чырвонай арміі выйшлі на адведзеную ім новую дэмаркацыйную лінію ў 15 кіламетрах ад дзяржаўнай мяжы: Пясочнае – Капыль – мястэчка Вызна – мястэчка Леніна і занялі горад Слуцк. Да канца лістапада савецкія войскі выйшлі на лінію ад Леніна на р. Случ да Турава.

Паколькі дастатковую абарону Слуцка беларускія вайскоўцы за некалькі дзён арганізаваць не паспелі, Беларуская Рада Случчыны прыняла рашэнне, а камандаванне Слуцкай брыгады выдала загад 24 лістапада пакінуць Слуцк і збірацца ў мястэчку Семежава, якое знаходзілася ў нейтральнай зоне. Тут і сабраліся палкі з 4 тысяч чалавек (а разам з рэзервай брыгада налічвала 10 тыс. чал.). Зброі на ўсіх не хапала. Спачатку ў Слуцкай брыгадзе налічвалася 500 вінтовак, што прынеслі самі паўстанцы, і 300 карабінаў, перададзены польскімі ўладамі (але яны аказаліся непрыдатнымі для бою, паколькі ў іх былі збіты прыцэлы ці яны мелі іншыя пашкоджанні). Ужо пасля пачатку Слуцкага паўстання праз Беларускую вайсковую камісію ў Лодзі брыгада атрымала яшчэ вінтоўкі і кулямёты. Частка зброі дасталася ад перабежчыкаў-чырвонаармейцаў або была ўзята ў баях, як трафеі. У снежні 1920 г. брыгада мела 2000 вінтовак і 10 кулямётаў. Артылерыі ў паўстанцаў не было зусім. Забяспячэнне харчаваннем спачатку было наладжана самімі сялянамі, але потым, па меры скарачэння тэрыторыі, якую займалі паўстанцы, пачало пагаршацца.

Баявыя дзеянні слуцкіх паўстанцаў пачаліся 27 лістапада. У першы ж дзень падраздзяленні 1-га Слуцкага палка пачалі налёты на палявыя варты, заставы і месцы размяшчэння 8-й стралковай дывізіі Чырвонай арміі, якая заняла дэмаркацыйную лінію. 17-я дывізія размяшчалася на поўдзень ад яе. Штодзённыя безупынныя атакі вяліся не толькі на фронце 1-га Слуцкага палка (на 20 кіламетраў), але і 2-га Грозаўскага палка на ўчастку працягласцю 60 кіламетраў. Асабліва моцна паўстанцы атакавалі на ўчастку Капыль-Цімкавічы-Вызна. Баі ішлі каля вёсак Садавічы, Быстрыца, Лютавічы, Морыч, мястэчка Капыль, Вызна. Тады савецкае камандаванне 16-й арміі вырашыла ачысціць нейтральную зону ад паўстанцаў. Польская дэлегацыя ў Рызе дала дазвол на ўваход савецкіх войскаў з 4 снежня на тры дні ў нейтральную зону. На працягу месяца, пакуль доўжылася паўстанне, польская дэлегацыя ў Рызе неаднаразова дазваляла савецкім часткам заходзіць у нейтральную зону па абодва бакі ад дзяржаўнай мяжы, каб яны здолелі перамагчы паўстанцаў. Аднак дзеянні Чырвонай арміі не далі вялікіх вынікаў. Было затрымана 50 дэзерціраў з Чырвонай арміі і 15 перабежчыкаў з брыгады. Камандаванне Слуцкай брыгады здолела вывесці свае галоўныя сілы з-пад удару савецкіх войскаў. Толькі ў раёне Семежава частка паўстанцкіх аддзелаў была разбіта і 7 снежня адкінута за польскую дэмаркацыйную лінію (30 афіцэраў і 400 жаўнераў), якія былі інтэрнаваныя польскімі вайсковымі ўладамі.

У гэты час у кіраўніцтве паўстанцаў адбыліся змены. Камандзір 1-га Слуцкага палка капітан П.Чайка быў арыштаваны па абвінавачванні ў здрадзе. Ён спрабаваў перадаць пакет з дакументамі на савецкі бок (раней служыў у Слуцкім вайсковым камісарыяце). Рада Случчыны сабралася на надзвычайнае паседжанне і пастанавіла зрабіць змены ў камандаванні брыгады. Чайка ўцёк з-пад варты ў Слуцк. Аднак там ён быў арыштаваны (за здраду савецкай уладзе) і па прыгавору "тройкі" асобага аддзелу 16-й арміі 9 студзеня 1921 г. расстраляны. Беларуская рада Случчыны, каб узмацніць пазіцыі рашучых прыхільнікаў змагання з бальшавіцкім рэжымам, а таксама і эсэраўскага кіраўніцтва паўстаннем, адхіліла з камандных пасадаў апалітычных людзей і прыхільнікаў С. Булак-Балаховіча. 3.12.1920 г. камандзірам Слуцкай брыгады быў прызначаны штабс-капітан Антон Сокал-Кутылоўскі, а камандзірам 1-га палка – падпалкоўнік Ахрэм Гаўрыловіч. Беларуская Рада Случчыны часова надала новаму камандзіру брыгады дыктатарскія паўнамоцтвы.

У сувязі з уваходам чырвоных войскаў у нейтральную зону Рада і штаб брыгады перамясціліся ў вёску Грыцэвічы, за 2 кіламетры ад ракі Лань, у нейтральнай зоне, але на польскім баку. Пасля вяртання савецкіх вайсковых адзінак з нейтральнай зоны на дэмаркацыйную лінію паўстанцы зноў пачалі нападаць на перадавыя аддзелы Чырвонай арміі. У ноч на 10 снежня слуцкія паўстанцы зрабілі напад на чырвонаармейскія падраздзяленні ў вёсках Крывасёлкі і Навасёлкі, у ноч на 12 снежня – на вёску Старынь. Потым паўстанцы зрабілі спробу адцiснуць перадавыя адзінкі Чырвонай арміі з занятых пазіцый. Быў распачаты наступ на мястэчкі Семежава і Вызна. У ноч на 13 снежня паўстанцы зноў занялі Семежава, але потым вымушаны былі з боем адысці. У гэты час, пасля баёў каля Вызны і Семежава, як сведчыць у сваіх мемуарах Э. Вайніловіч, польскія войскі нават адступілі ад сваёй дэмаркацыйнай лініі, каб даць магчымасць Чырвонай арміі разграміць паўстанцаў ужо на польскай тэрыторыі. Штаб Слуцкай брыгады 15 снежня пераехаў у вёску Морыч (за 20 кіламетраў на захад ад Вызны). У наступных баях у ноч на 18 снежня аддзелы слуцкіх паўстанцаў зноў занялі Семежава, а ў ноч на 19 снежня пасля бою занялі і Вызну і прасунуліся на ўсход ад гэтага мястэчка.

Савецкае камандаванне перакінула на фронт новыя сілы, якія пачалі рашучы наступ з мэтай ліквідаваць узброенае паўстанне. Раніцай 19 снежня 1920 года вайсковыя адзінкі Чырвонай арміі адбілі Вызну і адцяснілі паўстанцаў да вёскі Смолічы (за 10 кіламетраў на захад ад Вызны). 20 снежня паўстанцы былі прыціснуты савецкімі войскамі да ракі Морыч. У той жа дзень з боем аддзелы чырвоных занялі Семежава.

Па ўзгадненні савецкай і польскай дэлегацый на мірных перагаворах у Рызе войскам Чырвонай арміі дазвалялася праследаваць аддзелы паўстанцаў і на польскай тэрыторыі. Штаб Слуцкай брыгады вымушаны быў перабазіравацца ў вёску Заастравечча (Клецкі раён) каля ракі Лань, за якой стаялі польскія войскі. Сюды збіраліся аддзелы паўстанцаў. Беларуская Рада Случчыны прыняла рашэнне перайсці раку ў раёне размяшчэння 41-га польскага пяхотнага палка. Перад самым адыходам 1-ы Слуцкі полк атрымаў ад Беларускай Рады Случчыны палкавы сцяг залацістага колеру. 28.12.1920 г. Слуцкая брыгада перайшла за раку Лань, 31.12.1920 г. на польскі бок перайшоў апошні аддзел слуцкіх паўстанцаў. Афіцэры і жаўнеры брыгады былі раззброены і інтэрнаваны ў лагеры ў раёне мястэчка Сіняўка (Клецкі раён), потым пераведзены ў лагер у Беластоку, а пазней у лагер у Дарагуску. Вызвалены яны былі толькі ў траўні 1921 г. пасля падпісання расійска-польскага мірнага дагавора (18.3.1921) і абмену ратыфікацыйнымі граматамі. Некалькі афіцэраў брыгады польскія ўлады перадалі савецкаму боку, і яны былі расстраляныя. Са складу брыгады 1 батальён (каля 400 чалавек) адмовіўся здацца польскім вайскоўцам і начале са сваім камандзірам застаўся на Случчыне для працягу ваенных дзеянняў партызанскага характару. У асноўным гэта былі прыхільнікі С. Булак-Балаховіча. Яны вялі барацьбу яшчэ доўгі час. Адзін з удзельнікаў Слуцкага паўстання, Макар Краўцоў (М. М. Касцевіч), быў рэдактарам газеты паўстанцаў. Сярод удзельнікаў Слуцкага паўстання таксама былі палітычныя дзеячы, прадстаўнікі інтэлігенцыі і інш., у іх ліку і П.Корчык (І.К.Лагіновіч), які стаў потым адным са стваральнікаў Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі ў Заходняй Беларусі, у якую ўвайшлі і беларускія эсэры, удзельнікі Слуцкага паўстання, а пазней ён стаўся палітычным сакратаром ЦК КПЗБ.

У абставінах, што склаліся ў канцы грамадзянскай вайны, пры варожай пазіцыі Польшчы, значнай перавазе савецкіх войскаў у колькасці і ўзбраенні, Слуцкае паўстанне шанцаў на перамогу не мела.

***Анатоль Грыцкевіч.***

---

**18 лістапада 2001 года на 63 годзе жыцця памёр**



**Сніціч Аляксандр Сяргеевіч,**

**былы намеснік Лідскага раённага вузла паштовай сувязі, прыхільнік ТБМ, пастаянны чытач і падпісчык газеты "Наша слова".**

**У 1997 годзе сп. Сніціч аказаў важкую падтрымку і садзеянне ў арганізацыі і станаўленні сістэмы рассылкі газеты "Наша слова" з г. Ліды па ўсёй краіне.**

**Рэдакцыя газеты "Наша слова" і Лідская гарадская рада ТБМ імя Ф. Скарыны выказваюць шчырыя спачуванні жонцы нябожчыка Ірыне Сцяпанаўне і дачцы Жэні у сувязі з напаткаўшым іх няшчасцем.**

---

**Заява Сойму БНФ "Адраджэньне"17.11.2001 г.**

## АБАРАНІЦЬ КУРАПАТЫ

Ва ўрочышчы Курапаты ля Менску ў канцы 30-ых гадоў былі растраляны і пахаваны не менш 30-ці тысяч ахвяраў палітычных рэпрэсіяў. Курапаты сталі вядомыя ўсяму свету, папярэджаннем пра страшную пагрозу, якую нясе з сабой таталітарызм.

У любой краіне свету такія мясціны становяцца клопатам агульнанароднага і дзяржаўнага дбання. Нажаль, не ў Беларусі. Насуперак рашэнню аб уключэнні курапацкага ўрочышча ў спіс гістарычна-культурных каштоўнасцяў 1-ый катэгорыі, яно дагэтуль неўпарадкаванае, не ахоўваецца, з-за чаго там безупынна фіксуюцца факты вандалізму. Краснамоўны прыклад – разбіццё каменнай лавы, усталяванай ад імя амерыканскага народа.

Праз Курапаты праходзіць участак Менскай кальцавой дарогі. У 1999 годзе Савет Міністраў прыняў рашэнне рэканструяваць дарогу, не агаварыўшы ў пастанове ніякіх спецыяльных умоваў для правядзення працаў у раёне помніка. Акрамя таго, валявым асабістым рашэннем Лукашэнка загадаў прыспешыць будаўніцтва дарогі, што прывяло да недапушчальнай паспешлівасці ў праектаванні і ўласна будаўнічых працах. Не былі прааналізаваныя альтэрнатыўныя варыянты будаўніцтва, прыкладам, аб'езд урочышча Курапаты, які, дарэчы, дазволіў бы знізіць экалагічную нагрузку на мікрараён Зялёны Луг.

Праца па будаўніцтву дарогі пачалася нават без праектаў.

У выніку сітуацыя вакол Курапатаў гранічна абвастрылася. На шляху бульдозераў кругласуткавым дазорам сталі маладыя людзі з розных грамадскіх арганізацыяў, нашчадкі ахвяраў рэпрэсіяў, мясцовыя жыхары. Створана грамадзянская ініцыятыва ў абарону Курапатаў, якая запатрабавала ад дзяржавы раскрыцця праўды аб выніках апошняга следства па курапацкай справе, гарантыяў мемарыялізацыі Курапатаў, паўторных археалагічных раскопак уздоўж дарогі. Сабраныя тысячы подпісаў мясцовых жыхароў за правядзеньне дарогі ў абыход з прычыны экалагічнай пагрозы.

Дэмакратычныя палітычныя партыі запатрабавалі ад Савету Міністраў неадкладна наладзіць публічны дыялог паміж урадам, з аднаго боку, і ўсімі зацікаўленымі арганізацыямі, з другога боку, аб лёсе Курапатаў у сувязі з будаўніцтвам дарогі. Такі дыялог аб лёсе нацыянальнай святыні засведчыў бы рэальную, а не паказную, гатоўнасць улады мяняць сваё стаўленне да грамадзянскай супольнасці.

Адказам уладаў стала дзікая расправа над абаронцамі Курапатаў 8 і 9 лістапада 2001 года, калі супраць беззбройных людзей быў ужыты слезагонны газ, іх атакавалі бульдозеры, збіваў АМАП. Многія пацярпелі фізічна: сябру БНФ і кіраўніцтва МФ Сяржуку Лісічонку да крыві разбілі галаву, збітыя былі Карповіч, Чарняеў, Каспяровіч. Пачаліся няправедныя суды над актывістамі, у тым ліку намеснікам старшыні БНФ Паўлам Севярынцам. Павел Севярынец, Хведар Жывалеўскі цяпер знаходзяцца ў вязніцы.

А праца па будаўніцтву дарогі пачалася без праектаў.

Рэжым, такім чынам, не захацеў чарговы раз пайсці на паразуменне з беларускім народам.

**Мы патрабуем ад уладаў:**

- прад'явіць грамадскасці праект будаўніцтва дарогі ў раёне Курапатаў;
- абнародаваць вынікі апошняга следства ў справе Курапатаў;
- забяспечыць грамадзкі і навуковы кантроль за працамі;
- асудзіць вінаватых у знясенні крыжоў па-за 15-мятровай зонай будаўніцтва і ў садысцкай расправе над абаронцамі Курапатаў.





# Да 100-годдзя Міхася Зарэцкага

*На 20 лістапада 2001 г. па ініцыятыве Шклоўскай раённай цэнтральнай бібліятэкі планавалася правядзенне вечарыны ў гонар 100-годдзя з дня нараджэння Міхася Зарэцкага.*

*Удзел у падрыхтоўцы гэтага мерапрыемства прыняла і Шклоўская раённая арганізацыя Таварыства беларускай мовы. Былі запрошаны госці з Менску, Магілёва іншых гарадоў нашай краіны.*

*Мерапрыемства павінна было прайсці ў памяшканні бібліятэкі в. Зарэчча Шклоўскага р-на, дзе прайшлі дзіцячыя і юнацкія гады Міхася Зарэцкага. Але ў апошні момант кіраўніцтвам Шклоўскага райвыканкаму гэтае мерапрыемства было забаронена. Калі ж старшыня раённай арганізацыі ТБМ Грудзіна А. П. звярнуўся да намесніка старшыні Шклоўскага райвыканкаму Гузава В. А., які курye арганізацыі культуры і асветы, з пытаннем аб прычынах забароны вечарыны, Валеры Андрэевіч толькі адказаў, што трэба займацца беларускай мовай, а не палітыкай і больш не захацеў з ім размаўляць.*

*Рыгор Кастусёў.*

## Параднёны са Шклоўшчынай

Вядомы беларускі пісьменнік Міхась Зарэцкі (сапраўднае прозвішча Касянкоў Міхаіл Яўхімавіч) нарадзіўся 20 лістапада 1901 года ў сяле Высокі Гарадзец Сенненскага павету Магілёўскай губерні (цяпер Талачынскі раён) у сям'і вясковага дзяка. Неўзабаве яго бацька быў пераведзены на службу ў царкву ў Зарэчча Шклоўскага раёна. Менавіта тут рос і мужнеў будучы пісьменнік і потым узяў сабе псеўданім, які паходзіць ад назвы шклоўскага паселішча – Зарэцкі, бо ад вёскі пад Шкловам у яго памяці засталіся самыя добрыя дзіцячыя ўспаміны і ружовыя спадзяванні.



Кірунак у вучобе Міхасю абраў бацька. Сын не пасмеў пярэчыць яго волі. Пасля заканчэння школы, калі хлопцу споўнілася 10 гадоў, пераступіў парог Аршанскай духоўнай навучальні. Пасля яе вучобу працягваў у Магілёўскай духоўнай семінарыі, якую пакінуў, калі пачалася рэвалюцыя. Юнака захапілі рэвалюцыйныя падзеі. Пайшоў перапісчыкам у паўвайсковую частку. З пачатку 1919 года працаваў настаўнікам на Магілёўшчыне, а потым працягваў педагагічную дзейнасць на пасадзе загадчыка Шклоўскага валаснога аддзелу народнай асветы. З 1920 па 1926 год быў палітработнікам у Чырвонай Арміі.

Што да літаратурнай творчасці, то захапіўся ёю, пачаўшы пісаць мастацкія творы ў 1921 годзе будучы вайскоўцам. Быў сябрам літаратурных абяднанняў "Маладняк", "Полымя". Акрамя апавяданняў, пісаў прасякнутыя пафасам рэвалюцыйнай рамантыкі аповесці, раманы, п'есы. Стыль ранніх твораў Міхася Зарэцкага вызначаўся ўзнёслай рамантыкай. Фраза лірычна ўсхваляваная, квяцістa-метафарычная.

Багатае веданне тагачаснага пераломнага жыцця пасадзейнічала Зарэцкаму напісаць праўдзівыя творы пра рэвалюцыйны час. Ён пісаў у аўтабіяграфіі: "...бясконцыя блуканні з месца на месца, безліч назіранняў і ўражанняў, блізкае знаёмства з дзесяткамі і сотнямі самых разнастайных чалавечых тыпаў – усё гэта ўзбагаціла... незвычайным запасам матэрыялу, які я выкарыстаў пасля ў шэрагу сваіх апавяданняў".

У апавяданнях паказваў, як працоўныя вёскі ўздымаліся на барацьбу з ворагамі рэвалюцыі – "Бацькаў сын", "Ліпа", далучаліся да актыўнай грамадскай дзейнасці – "Цішка-бабыль". Аўтар ствараў вобразы змагароў за перамогу новага ладу, узнімаў складаныя маральна-этычныя праблемы – "42 дакументы", "Ворагі", "Дзіўная", "Кветка пажоўклая".

Пісьменніка захаплялі рэвалюцыйныя падзеі, пераўтварэнні. А яны, у сваю чаргу, былі звязаны з лёсамі людзей, часам трагічнымі ў тым плане, што новы час успрымаўся або адвяргаўся наогул. Такія перыпетыі характэрны аповесці Зарэцкага "Голы звер". Крытыка таго часу і нават блізкія сябры па пяру назвалі аўтара "выказвальнікам ідэалогіі варожага класа".

Не ў лепшым плане быў ацэнены і раман "Крывічы". Пачатак яго быў надрукаваны ў 4-м нумары "Полымя" за 1929 год. Далейшай публікацыі не было, хоць у часопісе значылася: "Працяг будзе". Справа ў тым, што ў рамане намячаўся кірунак нацыянальнага адраджэння беларусаў. Такое ўспрымалася па тым часе крамолай.

Вось як ахарэктарызаваў "Крывічоў" С. Будзінскі, дзеяч польскага рэвалюцыйнага руху, у артыкуле "Вораг у доме" (11-12 нумары "Полымя" за 1929 год): "Тое, што надрукавана і што аўтар падрыхтаваў да друку, заключае ў сябе бессаромную ідэалізацыю нацыянал-дэмакратызму і нацыянал-фашызму. Мы маем паклёп на камуністычную партыю".

Неўзабаве Міхась Зарэцкі быў выключаны з партыі. Не з'явілася ў "Полымі", хаця планавалася да друкавання, яго драма "Рагнеда". Рукапіс яе знік. Невядома, ці быў завершаны раман "Крывічы".

А тым часам "палымяныя" крытыкі працягвалі пляжыць пісьменніка, дапісаліся да таго, каб ён адмовіўся ад рамана "Крывічы", раскаяўся ў сваіх грахах. Асабліва завіхаўся Л. Бэндэ, адчуваючы, што Зарэцкі – яго чарговая ахвяра.

"Тым не менш з пакаяннем М. Зарэцкі чакаў да 1931 года. – Піша А. Марціновіч. – Нарэшце, адчуў, што неабходна хоць неяк пайсці "насустрач" тым, хто так хоча засцерагчы яго ад далейшых "памылак" і даравць "памылкі" ранейшыя. Адчуваў – трываць далей проста не стае сіл, таму тэрмінова прапанаваў у "Полымя" фрагменты новага твору. Іх убачылі чытачы, калі раскрылі другі нумар часопіса за 1931 год. Быў надрукаваны ўрывак з рамана "Смерць Андрэя Беразоўскага", які называўся "Рубеж". Аўтарам як бы рабіўся свайго роду крок назад. Праўда, падобнае ў літаратуры сустракаецца, але даволі рэдка: у новым творы расказвалася пра падзеі, якія папярэднічаюць таму, пра што ўжо гаварылася. Рабілася гэта М.Зарэцкім з адзінай мэтай – каб крыху рэабілітавацца".

Гэты "ход канём" крыху заспакоіў аўтара ў творчым плане. Ён піша раман "Вязьмо", які друкуецца ў "Полымі" у 1932-1933 гадах. Гэта лепшы твор таго часу; у якім аб'ектыўна паказана калектывізацыя ў Беларусі. Не выпадкова на конкурсе з нагоды 15-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі раман быў прызнаны, як адзін з лепшых.

Але творчая актыўнасць пісьменніка трагічна прыпыняецца пасля даносу на яго. Міхася Зарэцкага арыштавалі ў лістападзе 1936 года нібыта за контррэвалюцыйную і нацыяналістычную дзейнасць.

Вось што піша А. Марціновіч пра гэты трагічны час Міхася Зарэцкага: "Следства працягвалася да 1937 года. Называліся ўсё новыя і новыя "злачынствы". Калі спачатку ён праходзіў як радавы ўдзельнік контрэвалюцыйнай арганізацыі, якую, як быццам, стварыў Янка Купала, дык потым кіраўніком зрабілі ўжо М. Зарэцкага. следчыя прыйшлі да выва́ду, што гэта адбылося пасля таго, як Купала разам з Ц. Гартным, М. Чаротам і М. Зарэцкім пабывалі за мяжой. Там, як быццам, пра ўсё дамовіліся, на чале арганізацыі паставілі маладзейшага".

Міхася Зарэцкага прыгаварылі да расстрэлу. Але каты злітаваліся – пакаранне змякчылі, вышэйшую меру пакарання замянілі 9-цю гадамі зняволення. Не вытрымаў іх Зарэцкі, загінуў 13 чэрвеня 1941 года.

Такі лёс пісьменніка, які рос, мужнеў, сталеў на Шклоўшчыне, пачынаў сваю творчасць ад дняпроўскіх хваль.

*Л. Анціпенка.*

**Заўвага:** у экспазіцыі Шклоўскага гісторыка-краязнаўчага музея дэманструюцца дакументы з крымінальнай справы на Міхася Зарэцкага (Касянкова), якая захоўваецца ў Цэнтральным архіве КДБ Рэспублікі Беларусь. У ёй сцвярджаецца, што пісьменнік "Арыштаваны 03.11.1936 г. як удзельнік "антысавецкай нацыянальна-тэрарыстычнай дыверсійнай арганізацыі" 28.10.1937 г.. Ваеннай Калегіяй Вярхоўнага Суда СССР асуджаны на падставе арт.арт. 70 і 76 КК БССР да расстрэлу. Прыгавор выкананы 29.10.1937 г. у Менску. Рэабілітаваны 07.12.1957 г. Ваеннай Калегіяй Вярхоўнага Суда СССР".

"Беларуская Савецкая Энцыклапедыя" (т.IУ. стар.502), а таксама даследчыкі творчасці пісьменніка (А. Марціновіч, напрыклад) даюць іншую дату смерці Міхася Зарэцкага – 13 чэрвеня 1941 года. Відаць, апошняе больш верагодна.

*"Ударны фронт", г. Шклоў.*

Аляксандр Талерчык

# ПАРЭЦКІЯ НАСТАЎНІКІ

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*



**Восіп Кісель, здымак захоўваецца ў Слонімскім музеі. Копія даслана ў рэдакцыю пасля пачатку публікацыі.**

Наталевічу даслалі тэматычны план работы Жыровіцкага апорнага пункта на 1947 г.:

*"Сделано в 1946 г.*

*1. Виноград: путем отводков и черенкования получено 160 однолетних саженцев. Заготовлено осенью 700 чубуков.*

*2. Семечкование: выращено 2000 шт. дичков яблони, заготовлено 0,5 кг семян местной дикой яблони и груши. Семена заскованы. Собрано и заскованo 165 косточек персиков и абрикосов.*

*3. По ягодным культурам: выращено кустов красной смородины (Версальская, Ньютенборгская, Берлинер Герос) 50 шт.*

*Собрано дикой ежевики 100 отростков.*

*Отпущено винсовхозу "Пружаны" Брестской области 500 черенков винограда.*

*Что будет сделано в 1947 г.*

*1. Окоронено черенков винограда 300 шт.*

*2. Высажено на испытательный участок 100 саженцев однолетнего винограда.*

*3. Заготовлено чубуков винограда 800 шт.*

*4. Зачеренковано разных сортов смородины черной и красной 1000 шт.*

*5. Заготовлено семян дикой груши 0,5 кг, яблони 0,5 кг, сливы 1 кг."*

З надыходам старасці Восіп Кісель баіцца, каб вынікі яго эксперыментаў і дасягненняў не былі потым знішчаны, як гэта было не адзін раз у ягоным жыцці, таму да сваёй працы прыцягнуў дачку Дубай Ніну Восіпаўну.

Для апорнага пункта па садаводству і вінаградарству было выдзелена 8 гектараў зямлі ў Старых Жыровічах. 25 верасня 1947 года да Кісяля В. М. звярнуўся Батанічны Сад Акадэміі Навук БССР з просьбай падзяліцца пасадачным матэрыялам па вінаграду: чаранкамі і саджанцамі, бо там хочуць таксама заняцца развядзеннем вінаграду. Восіп Мацеевіч ім дапамог.

Аўтарытэт Восіпа Мацеевіча ў навуковых колах і прызнанне яго заслуг Прэзідыюмам Вярхоўнага Савета БССР падштурхнулі мясцовыя ўлады звярнуць увагу на значнасць работ і ацаніць яго уклад у вырошчванне і распаўсюджванне вінаграду. Хоць са спазненнем, вырашылі дапамагчы яму матэрыяльна. 7 сакавіка 1947 года, калі Кісель адпрацаваў амаль год загадчыкам апорнага пункта доследнай станцыі, на паседжанні выканкаму Слонімскага райсавету разглядалася пытанне: "Об установлении персональной пенсии учителю-переселенцу Киселю Юзефу". Было вырашана: "Рассмотрев заявление Зав РайОНО тов. Букатый и учитывая работу тов. Кисель по выведению новых сортов плодовых деревьев и его пропагандическую деятельность, Исполком Слонимского Райсовета депутатов трудящихся решает:

Просить Исполком Барановичского Облсовета депутатов трудящихся установить персональную пенсию учителю-Мичуринцу Жировичской НСШ тов. Киселю Иосифу в размере 700 (семсот) рублей в месяц. Председатель Слонимского Райсовета Мардашов. Секретарь Коско".

Памёр Восіп Мацеевіч Кісель так і не дачакаўшыся пенсіі. Пахаваны на Жыровіцкіх могілках. Пра сябе былы парэцкі настаўнік пісаў вельмі сціпла: "Вайсковай службы не праходзіў, у палітычных партыях не знаходзіўся. Усё жыццё адданы быў школе, вучыўся сам і дзяцей вучыў... На канікулах заўсёды быў на курсах *(скончыў 12 курсаў па пчалярству і садоўніцтву – А.Т.)*, у свабодны час займаўся пчалярствам і садоўніцтвам".

Шаноўныя чытачы! Калі напаўняеце кошыкі гронкамі сакавітага вінаграду на сваіх лецішчах, ведайце, што ў гэтым ёсць вялікая заслуга былога парэцкага настаўніка Восіпа Мацеевіча Кісяля.

У 1935 годзе, пасля выхаду на пенсію Восіпа Мацеевіча, у парэцкую школу была прыслана ўжо польская настаўніца Ядвіга Шапавалава, якая там працавала да пачатку нямецка-польскай вайны 1939 года і вучыла дзяцей толькі па-польску. У гэтай школе, якая з 1939 года стала беларускай, я пачаў вучыцца. Настаўнікамі працавалі Паважынскі, Анцута, Шалюпскі. Маёй першай настаўніцай была Вольга Іванаўна Сянкевіч, але на наступны год яна знікла. У гэтай школе я закончыў чатыры класы (трэці і чацвёрты ўжо пры немцах). У 1943 годзе школа была спалена партызанамі. Тады імі на Слонімшчыне было спалена каля 80 школ.

 



Станіслаў Суднік

# Сейлавічы: крэскі на белай пляме

## Спроба тапанімічна-этнаграфічнага эсэ

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Путныя баяры выконвалі службу на кані: іх пасылалі ў далёкую дарогу з лістамі і загадамі. Той баяр, які выконваў гэтую службу, вызваляўся на гэты год ад зямельных падаткаў.

Служак прызначалі ў кожны замак: ім даручалі з замка да Вільні вазіць грашовыя сумы ці павесткі ў навакольныя двары.

Каралеўскім прывілеем 1547 года панцырным баярам надаваліся наступныя правы: 1) Без суда яны не маглі быць пакаранымі. 2) Усім пакінуты маёнткі і двары дараваныя ранейшымі каралямі. 3) Жонкам памерлых баяраў дазвалялася валодаць мужавымі маёнткамі да наступнага іх замуства: пры ўступленні ж у другі шлюб пакідаць пры сабе толькі тое, што паводле тастаманту мужа ёй запісана: іншае аддаваць дзецям, братам, ці бліжнім сваякам памерлага. 4) Забаранялася з баяраў браць падводы, коней і саміх баяраў выкарыстоўваць на якуюнебудзь іншую для княжацкага двара службу, не дазвалялася пасылаць іх на заставы і чыніць іншыя цяжкасці. 5) Тым, хто здаўна ад сваіх продкаў меў дамы ўнутры горада, ці хацеў праз купецтва ці рамяство мець нейкія промыслы, дазволена выконваць усе купецкія і мяшчанскія абавязкі і мець усе правы. 6) Тым, якія з часоў караля Казіміра (Ягеленчыка) ад дзядоў і бацькоў сваіх атрымалі нададзеныя ім двары дазволена ў іх мець слуг і сяліць людзей. 7) Калі ж хто з панцырных баяраў пажадаў бы свой маёнтак прадаць, аддаць ці прамяняць, то не інакш мог гэта зрабіць, як толькі з дазволу Вялікага князя. (Таму казкі пра тое, як паны прагульвалі свае маёнткі, да часоў Вялікага княства ніяк не пасуюць. Вялікі князь, да якога просты баяр мог дабівацца гадамі, хутчэй бы прызначыў апекуна, перадаў маёнтак сыну ці брату бесталаннага баяра, чым дазволіў прапіць або прагуляць у карты, бо кожны гаспадарчы баярскі двор быў эканамічнай, палітычнай і вайсковай адзінкай Вялікага княства).

Гэтыя баярскія правы раз за разам пацвярджаліся кожным вялікім князем: у 1580 г. Стэфанам Баторыем, у 1593 г. Жыгімонтам III, у 1636 г. Уладзіславам IУ, у 1670 г. Міхалам Вішнявецкім, у 1680 г. Янам III Сабескім, у 1720 г. Аўгустам II, у 1746 г. Аўгустам III, у 1764 г. Станіславам Аўгустам.

Панцырны баяр лічыўся вышэйшым ад путнага і служкі. Даход яго з зямель складаў не менш 40 коп грошаў літоўскіх.

*Літоўскі грош караля Жыгімонта Аўгуста 1565 г. быў срэбны, добрага срэбра. На адным баку вершнік з паднятым мячом ("Пагоня"), па другім баку літары SA, што абазначалі Sigismuntus Augustus. Капа грошаў значыць 60 грошаў, адпаведна 40 коп гэта 2400 грошаў літоўскіх срэбных, або 2400 злотых польскіх, або 360 рублёў срэбрам часоў расейскага імператара Мікалая I (сярэдзіна 19-га стагоддзя).*

*Зачапіўшы грошы нельга прайсці міма легенды пра паходжанне расейскай грашовай адзінкі "капейка". Расейцы ва ўсе свае кнігі і падручнікі па гісторыі пішуць, што слова "капейка" паходзіць ад слова "кап'ё", быццам бы ад таго, што на капейках выбівалі выяву святога Георгія з кап'ём (дзідай). На самай справе ўсё гэта, мякка кажучы, некалькі не так. Слова "капейка" ў рускіх летапісах з'явілася на 60 гадоў раней за манету з выявай св. Георгія. Таму "капейка" мае некалькі іншае паходжанне. Яшчэ мабыць з часоў* ***Полацкай Крывіі*** *разліковай адзінкай была* ***капа.*** *У ВКЛ разліковай адзінкай была* ***капа грошаў літоўскіх****. На копы лічылі і ў Масковіі. Дык чаму ж тады маскоўцы не перанялі з капой і грош. Справа ў тым, што маскоўская манета была меншая за літоўскі грош. Да літоўскай капы ў 60 грошаў прыраўноўвалі маскоўскую капу ў 100 іхніх манет. Гэтую манету, складовую частку капы ў адрозненне ад гроша і назвалі* ***капейкай****. Капейка была срэбная, як і грош. Так што Святы Георгі тут хутчэй за ўсё ні пры чым. А прыгожую легенду ў расейскіх падручніках трэба замяніць тлумачэннем колькі іхніх капеек уваходзіла ў беларускую меру штучных прадметаў –* ***капу****.*

Даход путнага баяра складаў не менш 30 коп тых жа грошаў літоўскіх.

Панцырных баяраў за заслугі ўзнагароджвалі шляхецтвам. Таму тут ужо не вытрымлівае крытыкі нашая сучасная беларуская легенда, паводле якой любы селянін мог пайсці з князем на вайну і вярнуцца шляхціцам. Шляхціцам мог вярнуцца баяр. Каб селяніну вярнуцца шляхціцам, трэба было здзейсніць вычын роўны па рангу, як у апошнюю вайну для атрымання Героя Савецкага Саюза. А вось для баяраў вайна для атрымання шляхецтва была зручным повадам.

Пасля далучэння Беларусі да Расіі царскія ўлады доўга не маглі разабрацца з баярамі. Яны ўсяляк імкнуліся перавесці іх у разрад сялян, хай сабе і аднадворцаў, г. зн. дзяржаўнях сялян, практычна вольных. Аднак баяры з гэтым ніяк не пагаджаліся. Таму Сенат вымушаны быў прыраўняць іх да казакоў. Асноўная розніца заключалася ў тым, што баяры ў рангу казакоў маглі мець прыгонных сялян. Разам з тым беларускія баяры ў рангу казакоў займелі адразу значную перавагу ў правах і над казакамі, бо казакі павінны былі ісці на вайну з канём, зброяй, у амуніцыі і г. д. А беларускія баяры-казакі гэтай павіннасці не выконвалі, у рэкруты не ішлі, а ў афіцэры, як юрыдычна не дваран, іх не пускалі.

Але такія ліберальныя падыходы расейскай улады да баяраў характэрныя толькі да 18-га стагоддзя. Пасля шэрагу паўстанняў, пры так званым разборы шляхты, нават многім шляхціцам не ўдалося даказаць сваё шляхецтва. А што тычыць баяраў, то іх пагналі ў аднадворцы, больш не разважаючы.

Хто з сейлавіцкіх баяроў атрымаў шляхецтва, хто не, сёння не сказаць: але паводле наяўных дакументаў атрыманне шляхецтва сейлавіцкімі баярамі прыпадае на 16-17-е стагоддзе, а рэальна значна раней, магчыма і ў 15-м. Таму для сейлавіцкай шляхты мала значыла, што ты католік ці паляк. Гэта другаснае. Сваё не надта паважлівае стаўленне да польскай улады сейлаўцы тлумачылі так: "Хто такія гэтыя палякі? Яны толькі паноў удаюць, а самі – мужыкі, а мы -- шляхта".

Як правіла кожнаму сейлавіцкаму шляхочаму роду дзе-небудзь адпавядае ці адпавядала вёска, засценак, мястэчка. У Сейлавічах жывуць, або жылі ў 20-м стагоддзі шляхта з прозвішчамі: Цвірка, Татур, Суднік, Некраш, Галоўня, Чырка, Рэйт, Станкевіч, Хоміч, Секяржыцкі, Шыдлоўскі, Грынявіцкі (Грынявецкі), Мысліцкі, Гладоўскі, Невядомскі, Сярпінскі, Васілеўскі, Флер'яновіч (Фірановіч), Буліновічы (Быліновіч, Беляновіч), Матусевіч, Ануфровіч, Вашкевіч, Пятровіч, Пяткевіч, Мазалеўскі, Зубовіч, Кубанкевіч, Невяроўскі, Марцінкевіч, Петрашэўскі, Савіцкі, Язвінскі, Таралевіч, Войніч, Салавей, Кіраш?, Крэпскі (з Ліпніцкіх), Машчынскі (са Слаўкава) і, напэўна, гэта не ўсе. У Андрушах жыў Урбан (Гурбан), у Кунасе - Ліхадзіеўскі.

Многія шляхочыя рады акрамя, прозвішча мелі прыдомкі і былі прыпісаны да адпаведных гербаў.

Прыдомак – гэта дадатковае прозвішча (частка падвоенага) у некаторых шляхецкіх родаў. Стаіць перад асноўным прозвішчам, або пасля. Можа быць родавым прозвішчам (часцей патронімам), ад ужывання якога, як асноўнага прозвішча род па нейкіх прычынах адмовіўся на карысць другога прозвішча, утворанага ад тапоніма.

На сёння мне вядомы у Сейлавічах роды, якія памятаюць свае прыдомкі: Суднікі – Грынкевічы, Некрашы – Лапатэцкія і Цвіркі – Гадыцкія. Адназначна быў прыдомак і ў Станкевічаў. Мне даводзілася бачыць грамату на шляхецтва майго аднакурсніка Станкевіча з-пад Менска. Там быў прыдомак але стаяў ён перад асноўным прозвішчам.

Найбольш вядомым прыдомкам быў **Гадыцкі**. Цвіркаў у Сейлавічах шмат, таму да адной з галін роду для адрознення ад іншых і прыляпіўся ў якасці мянушкі прыдомак. Пры гэтым, як часта бывае, Стася Гадыцкага ведалі ўсе, а каб спытаў Стася Цвірку, то адправілі б у іншы бок засценка да колішняга брыгадзіра. Прыдомак **Гадыцкі** памятаюць усе вядомыя мне Цвіркі: і сейлавіцкія, і нясвіжскія, і ганцавіцкія, і менскія. І калі вы ўбачыце сёння ў якой-небудзь газеце артыкул падпісаны "Кастусь Гадыцкі", да цыганкі не ідзіце, а чытайце: "Кастусь Цвірка". Ну а які Кастусь Цвірка здагадацца ўжо не цяжка. Магчыма я выдаю таямніцу спадара Кастуся, ну але што ж зробіш. Не адзін ён ведае свой прыдомак.

Сейлавіцкая шляхта была складавой часткай шляхочага стану Вялікага Княства і мела цесныя родавыя сувязі з іншымі родамі. Адсачыць сувязі і радаводы ўсёй шляхты мне не пад сілу. Таму зраблю тое, што магу, і буду спадзявацца, што нехта даробіць іншыя фрагменты.

Патрыярх нашага роду, мая бабуля Марыя Адамаўна Мысліцкая 1893 г. нар. паходзіла з засценка Пасякі (быў недалёка ад вёскі Цагельня Нясвіжскага раёна, зараз ужо няма, належаў да Сейлавіцкай парафіі). У 1912 (1913) годзе Марыя Мысліцкая прыйшла замуж у Сейлавічы за Адася Сярпінскага. Бабуля паходзіла з багатай шляхочай сям'і. Яе бацька, а пазней і айчым былі эканомамі ў пана. Маці паходзіла з роду Грынявіцкіх.

Мая бабуля прыйшла замуж за Сярпінскага і ў іх нарадзілася дачка Ганька. У 1914 годзе Адася Сярпінскага, як многіх сейлаўцаў, як і Антося Мысліцкага, роднага брата бабулі забралі на вайну. Недзе ў 1916 годзе Адась Сярпінскі загінуў на Румынскім фронце, дзе знайходзіліся ўсе 100 тысяч мабілізаваных беларусаў. У 1918 ці 1919 годзе адтуль вярнуўся Антось Мысліцкі, зайшоў у Пасякі, узяў нейкія рэчы і пайшоў да Калчака. Больш яго не бачылі.

Пасля вайны, рэвалюцыі, польска-савецкай вайны і Рыжскай дамовы бабуля судзілася з залувіцамі (сёстрамі Сярпінскага) за гаспадарку. Сёстры хацелі выгнаць братовую. Але польскі суд усю маёмасць прысудзіў малой Ганьцы, пакінуўшы бабулю апякункай пры ёй. І ўжо сёстры Сярпінскія пакінулі Сейлавічы, павыходзілі замуж і апынуліся аж на Украіне ў Палтаўскай вобласці ў сяле Фляркоўцы. Недзе ў пачатку 1920-х гадоў Марыя Сярпінская прыняла прымака Вінцэся Судніка з Суднікоў, зараз Стаўпецкі раён, але Сейлавіцкая парафія. Вінцэсь Суднік-Грынкевіч пачаў трэцюю галіну Суднікаў у Сейлавічах. Але падобна, што ўсе тры галіны пачынаюцца з Суднікоў.

Род Суднікаў-Грынкевічаў вельмі вялікі і разгалінаваны, фактычна гэта клан. Паводле асаблівасцяў напісання прозвішча род мае пяць умоўных галінаў: Суднікі-Грынкевічы, Грынкевічы-Суднікі, асобна Суднікі, асобна Грынкевічы і ў вёсцы Суднікі Валожынскага раёна жывуць ужо Судніковічы. Усе гэтыя галіны належаць да гербу "Ляліва".

Пасля падзелу Рэчы Паспалітай толькі невялікая частка шляхты была зацверджана ў дваранстве Расейскай імперыі з падвоінымі прозвішчамі. Да гонару роду Суднікаў-Грынкевічаў трэба сказаць, што значнай частцы роду ўдалося захаваць прыдомкі пры прозвішчах.



Герб "Ляліва"

Так вядома, што ў Гайках разам з ксяндзамі былі расстраляныя два Суднікі-Грынкевічы Ян і Аляксандр, а зараз ў Бярозаўцы Лідскага раёна жыве адзін (а мо і не адзін) Суднік-Грынкевіч з поўным прозвішчам у пашпарце.

Іншыя адгалінаванні захавалі адну частку прозвішча: або Суднік або Грынкевіч. І адна галіна трансфармавала прозвішча ў Судніковічы.

Наогул на Беларусі мне было вядома восем населеных пунктаў (вёсак, засценкаў) з назвай Суднікі. У кожнай з іх палова ці больш Суднікаў. Ёсць і католікі і праваслаўныя. **Традыцыйна розныя галіны Суднікаў паміж сабою – не свояцца.** Прычына гэтага можа быць у праўдападобнасці версіі высунатай гарадзенскім навукоўцам Міхасём Патрэбам, што ўсе вёскі Суднікі – гэта месцы пасяленняў рэшткаў яцвяжскага племені судаваў, пасля іх выцяснення крыжакамі і палякамі з сваіх зямель. Тады ўсе Суднікі не столькі адзін род, колькі адзін народ, хаця патронім Грынкевіч (Грынькевіч) патрабуе прыналежнасці і да аднаго роду.

У гістарыяграфіі Суднікі згадваюцца, як зямяне Наваградскага і Трокскага ваяводстваў.

Вядомы Тастамант Казіміра Судніка за 1675 год;

- судовы працэс 1674 г. паміж Анастассяй Казіміравай з Мерлаў, маці, Юзафам, Багуславам і Станіславам, сынамі, Суднікамі і Янам, бацькам, і Станіславам, сынам, Суднікамі.

- дэкрэт Галоўнага Трыбуналу ВКЛ па справе Багуслава Судніка з Самуелем Камінскім, пісарам гарадскім наваградскім аб прэтэнзіях па закладу фальварка Пархімовічы (1694 год);

- судовы працэс паміж Янам і Юрыем Станіслававічамі і дзядзькам Станіславам–Фларыянам Грынкевічам-Суднікам, сакратаром і дваранінам яго Яго Каралеўскай Міласці, караля Аўгуста II Моцнага (1699-1701);

- Тамаш Суднік, ленны ўладальнік 5 валок зямлі паводле прывілею княгіні Ганны з роду Сангушкаў Радзівіл, канцлеравай ВКЛ (1722), якую пакінуў унуку Юзафу Янавічу, а той сваім сынам Андрэю і Яну, ды іншым нашчадкам. (Магчыма засценак Суднікі Стаўпецкага раёна).

Выводзіліся: Андрэй (напэўна сын Юзафа Янавіча) з сынамі Ануфрыем і Ігнацыем, ды пляменнікам Юзафам; Юзаф з сынамі Францішкам і Нікадэмам, Якуб з сынамі Янам, Вінцэнтам і Юзафам; Ян з сынамі Міхаілам і Паўлам; Базыль і Юзаф, браты родныя; Аляксандр, Ян, Юзаф, Банавентура, таксама браты родныя; Стэфан з сынам Каятанам; Базыль з сынамі Каралем і Антоніем; Мацвей, Юзаф і Сымон, браты родныя; Базыль з сынамі Каралем, Янам, Пятром, Юзафам, Антоніем і Францішкам, а таксама Юзаф Грынкевічы-Суднікі.

Прызнаны ў расійскім дваранстве 30.05.1800 г.

*(Працяг у наст. нумары.)*

 

*Даўгачаканая сустрэча*

# Першы альбом Першага барда Беларусі




Ніхто, нават самыя заядлыя скептыкі, не маглі сабе ўявіць тое, наколькі любяць і памятаюць у Беларусі барда Сяржука Сокалава-Воюша. Яго кароткатэрміновы прыезд на Радзіму з Прагі, канцэрты ў Менску, у Курапатах, у Наваполацку сталі сапраўднай падзеяй у культурным жыцці сённяшняй Беларусі. Новую хвалю папулярнасці песняру забяспечыла "грымучая" сумесь з настальгічных успамінаў пра рамантычныя часы агульнага змагання за незалежную Беларусь у канцы XX стагоддзя, прыцягальнасць легендарнай асобы барда, шчырасць мелодый і вершаў Сяржука Сокалава-Воюша, што былі сабраныя БМА-group пад адной вокладкай яго першага сольнага альбома "Нефармальны беларус".

Але перад прыездам барда ў Беларусь з падачы некаторых "беларускіх газэт" была зроблена спроба раскруціць дыскусію наконт таго, ці ёсць С. Сокалаў-Воюш першым беларускім бардам (альтэрнатыва – трагічна загінуўшы беларус яўрэйскага паходжання Арык Круп, які калісці заспяваў: "Все леса, леса, леса Белоруссии..." ), там жа сцвярджалася пра "маральнае старэнне" прызнаных твораў барда, "лакальнасць" (?) "Песень касінэраў", высоўваліся правакацыйныя папрокі ў тым, што Сяржук з'ехаў з краіны, пасля таго як прадакляраваў сваім лепшым творам: "Мне краёў чужых ня трэба, як ні варажы, не хачу чужога хлеба, радасцяў чужых..."

Што тычыцца першаснасці ў беларускай бардаўскай песні, то, безумоўна, творчасць Арыка Крупа заўсёды выглядала больш патрыятычнай, беларускай, чымсці папеўкі пашпартных "беларускіх" бардаў, кшталту, А. Длусскага, дуэта Вайханскіх, А. Шэдзькі, для якіх беларускае слова як бы і не існуе.

Песні ж Сокалава-Воюша народжаныя ў беларускамоўнай стыхіі, маюць трывалыя карані ў беларускім фальклёры, дый скразная тэма яго творчасці – генетычна беларуская. Таму і слухачы, і крытыкі цвёрда называюць Сяржука Сокалава-Воюша першым, адным з пачынальнікаў сярод тутэйшых дрэнных копій Высоцкага, Нікіціных і Візбара.

На сваёй прэс-канферэнцыі Сяржук даў пераканаўчы адказ і тым, хто папракае яго ад'ездам на чужыну: "У "Аксамітным вечары" я казаў шчырую праўду – мне краёў чужых ня трэба! Проста жыццё склалася не так, як планавалася. Але я застаюся з Беларуссю. І тое, што я тут, буду выступаць з канцэртамі – лепшае падцверджанне маіх слоў."

Прэс-канферэнцыя, акрамя іншага, высветліла зацікаўленне творчасцю Сокалава-Воюша сярод мясцовай журналісцкай "брацііі" (не ўсё ж дрындушкі пра "Тату" ганяць). Прысутных захапіла адкрытасць Сяржука, яго прыроджаная дасціпнасць, імправізацыйнасць і вера ў тое, што добрае ў чалавеку заўсёды перамагае: "За гэты час я стаў больш любіць людзей. І вось зараз, калі я іду па Менску і бачу людзей, ў якіх на тварах злосць, незадаволенасць жыццём, мне хочацца шчыра ўсміхацца ім. А тых, хто паводзіць сябе па-хамску, па-свінску мне проста шкада.Бо не яго гэта віна, што стаў такім, хаця частка віны ляжыць і на ім."

Не абыйшлося і без пытанняў адносна беларускага жыцця ў Празе, пра якое Сяржук адказаў без прыўкрас: "25 сакавіка мы, прадстаўнікі беларускай дыяспары ў Чэхіі, збіраемся ля магіл прэзідэнта Крачэўскага, прэзідэнта Захаркі, даглядаем, па магчымасці рэстаўруем іх, адзначаем самае вялікае свята беларусаў. Раз на месяц збіраецца і плануе сваю працу суполка "Скарына". А больш падрабязна пра жыццё беларускай дыяспары на эміграцыі распавядаюць праграмы радыё "Свабода..."

Сяржук Сокалаш-Воюш выказаў шчырую ўдзячнасць прадзюсерам БМА-group, аўтару прадмовы да дыска, усім тым, хто захаваў рэдкія запісы і спрычыніўся да выдання першага беларускага па сутнасці альбома бардаўскай песні. Як адзначалася на прэс-канферэнцыі, гэтае выданне барду не сорамна будзе прэзентаваць па ўсёй Еўропе, бо якасць запісу, музычнага матэрыялу, якасць афармлення і адзінства серыйнай канцэпцыі "Беларускага музычнага архіву" надаюць кампакт-дыску "Нефармальны беларус" надзвычайную каштоўнасць.

Сапраўды, фанаграфічная навінка БМА-group дае вельмі каштоўны мастацкі і духоўны матэрыял, які заўсёды будзе запатрабаваны слухачамі, што б там не казалі скептыкі і недабразычліўцы. Бо на ім сабраныя такія пярліны беларускай бардаўскай песні, як цыкл "Песьні касінэраў", кожны твор з якога свае асалівы катарсіс для шчырага і зацікаўленага слухача, а яшчэ на дыску ёсць такія выдатныя песні – вехі нацыянальнага Адраджэння XX стагоддзя – "Крупнік", "Фронт", "Экалягічны гімн" "Курапаты", "Нефармальны беларус"... І ўсе гэтыя творы сёння зноў становяцца неймаверна актуальнымі, нават прароцкімі.

Ну а з памятным "Аксамітным вечарам" у кожнага слухача новага кампакт-дыска ёсць свой незабыўны ўспамін: ці то з вандроўнага вогнішча, ці то з падпольнага канцэрта, ці то з таварыскай фронтаўскай сустрэчы, дзе гэтая песня заўсёды гучала як напамін пра самае святое для кожнага з нас...

Хочацца сказаць некалькі слоў пра кампакт-дыск, як пра працяг серыі дыскаў "Беларускага музычнага архіву". Першае, што кідаецца ў вочы, калі бярэш у рукі навінку – пераемнасць мастацкага ўвасаблення. Бачна, што складальнікі зрабілі ўсё каб дыск, з аднаго боку, стаўся першым сольнікам барда, а, з другога – прадоўжыў фанаграфічныя традыцыі серыі, закладзеныя выдаўцамі ад самага пачатку — дыскам Міхася Забэйды-Суміцкага "Ластаўкі ў стрэсе". Да тых жа традыцый можна аднесці і стварэнне свае асаблівай творчай міні-энцыклапедыі, у якую ператварыўся ўкладыш кампакт-дыска. З яго архіўных дадзеных можна пазнаёміцца з дыскаграфіяй выканаўцы, са спісам публікацый ў беларукім друку, што былі прасвечаны Сяржуку Сокалаву-Воюшу, а таксама з разгорнутым нарысам творчасці барда. Асобны падарунак для аматараў беларускіх спеваў пад гітару – тэксты воюшавых песень з акордамі.

Цікава, што апошняй старонцы ўкладыша дыска ёсць няшмат вольнага месца, вельмі прыдатнага для аўтографаў барда. Гэтай магчымасцю на ўсе сто адсоткаў скарысталіся слухачы канцэрта, калі звярталіся па аўтограф да Сяржука. Але гэта здарылася ўжо пасля імпрэзы, што ладзілася таксама БМА-group.

Становіцца добрай традыцыяй тое, што амаль усе прэзентацыі выданняў гэтага лэйбла адбываюцца пры запоўненых залах, аншлагах. Было вельмі прыемна (хаця і прагназавана) бачыць тое, што і ў гэты дзень сустрэцца з даўнім сябрам прыйшло столькі менчукоў. І іх чаканні Сяржук Сокалаў-Воюш апраўдаў з ліхвой: канцэрт барда нагадваў дыялог старых сяброў. Сяржук увесь час




адказваў на пытанні слухачоў, выконваў любімыя творы, выказваў сваё стаўленне да падзеяў у Беларусі, распавядаў пра цяперашнія сустрэчы з сябрамі, пра планы на будучыню, пра мяркуемы прыезд у Беларусь на Каляды...

А слухачы ўсё замаўлялі і замаўлялі ўлюбёныя творы...

"Курапаты", "Прыстанкі", "Маналог паўстанцкага каня", "Апошні бой Валерыя Ўрублеўскага", "Песня пра Ґрунвальд", "Аксамінты вечар", "Пятля і воля", "Стромкія вогнішчы"... Гэта толькі няпоўны пералік твораў, што прагучалі падчас трохгадзіннага канцэрту ў Менску. А былі ж яшчэ і новыя песні, навеяныя думкамі беларуса на чужыне – "Свечка", "Застольная песня" і шмат іншых паэтычных споведзяў барда. Усе гэтыя творы слухачы успрымалі адпаведна – узрушанымі апладысментамі і сяброўскімі воклічамі. Ну а абалганы гімн "Фронт" слухачы, сярод якіх было столькі моладзі, ужо заспявалі разам. Нажаль, час канцэрту Сяржука Сокалава-Воюша падыходзіў да завяршэння. Так хацелася прадоўжыць гэтую незабыўную сустрэчу з песнямі і мелодыямі маладосці! І арганізатары канцэрту прапанавалі найлепшае выйсце – прыдбаць сольны альбом Сяржука Сокалава-Воюша "Нефармальны беларус". Наведвальнікі ж канцэрта не скупіліся і масава набывалі новы кампакт-дыск. Ды так аператыўна, што праз паўгадзіны увесь сігнальны наклад быў раскуплены!

Думаем, што гэты прыклад будзе падтрыманы прыхільнікамі творчасці Сяржука Сокалава-Воюша па ўсёй Беларусі – "Нефармальны беларус" стане пажаданым набыткам у кожнай беларускай сям'і, у фанатэках аматараў беларускай бардаўскай песні і слухачоў беларускай рэдакцыі радыё "Свабода"...

Да новых сустрэч на Каляды, Сяржук !

**Анатоль Мяльгуй.**

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

***Рэдакцыйная калегія:***
Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 26. 11. 2001 г.
Наклад 3800 асобнікаў. Замова № 2543.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 418 руб., 3 мес.- 1254 руб.
***Кошт у розніцу:*** 80 руб.